# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Субота, 18 чэрвеня 1994 года | №64 (10764) | Цана 100 руб.

Прэзідэнцкі марафон

## НЕДАСКАНАЛАСЦЬ ЗАКОНА ВЫКЛІКАЕ ЦЯЖКАСЦІ

**Барысаў з'яўляецца самым буйным горадам сталічнай вобласці пасля Мінска, таму, натуральна, тут пражывае і найбольшая колькасць выбаршчыкаў. Паводле ўдакладненых звестак, іх колькасць дасягнула 105 тысяч.**

**З мэтай забеспячэння нармальных умоў для волевыяўлення барысаўчан у горадзе ўтворана 65 участкаў і столькі ж участковых камісій. Гарадскую камісію па выбарах першага Прэзідэнта рэспублікі ўзначальвае П.А.Кірыкаў, які ўжо мае немалы вопыт, паколькі на працягу апошніх пятнаццаці гадоў выбіраўся старшынёй участковых камісій.**

Карэспандэнт газеты папрасіў Пятра Апанасавіча падзяліцца сваімі думкамі і меркаваннямі наконт цяперашняй выбарчай кампаніі, расказаць аб рабоце камісіі.

— Нельга не адзначыць важнасці кампаніі па выбарах першага ў гісторыі нашай дзяржавы Прэзідэнта, — сказаў ён. — Гэтая акалічнасць павышае ўзровень адказнасці, што ўскладаецца на кожнага з членаў як гарадской, так і ўчастковых камісій. Тым больш што цяпер у выбаршчыкаў ёсць магчымасць выбару, бо на высокую пасаду прэтэндуюць ажно шэсць кандыдатаў.

Адметна, што калі раней падрыхтоўкай да выбараў, іх арганізацыяй і правядзеннем займалася шырокае кола людзей пад непасрэдным кіраўніцтвам вызваленых партыйных работнікаў, то цяпер усе гэтыя шматлікія клопаты ўскладзены на членаў гарадской і ўчастковых выбарчых камісій. А там, між іншым, вызвалены ад сваіх асноўных абавязкаў на час падрыхтоўкі і правядзення выбараў Прэзідэнта толькі сакратары, а ўсе астатнія выконваюць ускладзеныя на іх функцыі па сумяшчальніцтву. Зразумела, што і магчымасці іх абмежаваныя.

І тым не менш пры садзейнічанні работнікаў гарвыканкома нам удалося паспяхова правесці асноўныя этапы перадвыбарнай кампаніі: своечасова былі сфарміраваны гарадская і ўчастковыя выбарчыя камісіі, падабраны памяшканні для іх работы. Вызначаны межы ўчасткаў, прыняты і выбарачна праверaны падпісныя лісты членаў ініцыятыўных груп па вылучэнню прэтэндэнтаў у кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду. Паўсюдна на відных месцах вывешаны абазначэнні ўчасткаў і календары аб дні выбараў, удакладнены спісы выбаршчыкаў. Хаця з-за недасканаласці асобных палажэнняў Закона аб выбарах Прэзідэнта давялося сутыкнуцца з дадатковымі цяжкасцямі.

Возьмем самы пачатковы этап — фарміраванне ўчастковых камісій. Законам прадугледжваецца, што любая арганізацыя можа вылучаць у састаў камісіі толькі аднаго свайго члена, і гэта павінна пацвярджацца дакументальна шляхам афармлення адпаведнага пратакола. У горадзе трэба было стварыць 65 участковых камісій, у кожнай з якіх павінна быць ад 13 да 19 членаў. Агульная колькасць членаў камісій дасягнула тысячы чалавек, значыць, спатрэбілася афармляць столькі ж і пратаколаў. А хто гэта павінен быў рабіць — Законам не агаворана. На мой погляд, варта было б спрасціць гэтую працэдуру і не разводзіць папяровую бюракратыю.

Мне здаецца, не зусім дасканалае і палажэнне аб зборы подпісаў у падтрымку прэтэндэнтаў і праверцы падпісных лістоў ініцыятыўных груп. У нашу камісію паступілі падпісныя лісты шэрагу ініцыятыўных груп па вылучэнню прэтэндэнтаў, у якіх каля 25 тысяч подпісаў выбаршчыкаў г.Барысава. У вызначаны Законам дзесяцідзённы тэрмін 13 членаў нашай камісіі не маглі сустрэцца нават з палавінай тых гараджан, што паставілі свае подпісы ў лістах, каб праверыць іх сапраўднасць. А між тым, у час выбарачнай праверкі выяўлялася мноства самых розных парушэнняў Закона ледзь ці не ў кожным другім правяраемым лісце. Па асобных кандыдатурах прызнаны несапраўднымі да 17 працэнтаў прадстаўленых камісіі подпісаў.

Даволі часта подпісы выбаршчыкаў збіралі не члены ініцыятыўных груп, а іх сябры ці знаёмыя. Гэтага можна было б пазбегнуць, калі б у Законе было агаворана, што падпісныя лісты запаўняюцца членамі ініцыятыўных груп. А так на праверку членам камісіі давялося патраціць многа часу і сіл, аднак усё роўна высветліць сапраўднае становішча спраў так і не ўдалося, таму, несумненна, многа прайшло "ліпы".

І яшчэ на адной немалаважнай праблеме хацелася б засяродзіць увагу. Законам дазволена ажыццявіць сваё права выбару ў зручны для выбаршчыкаў час, у любы з дзесяці папярэдніх дзён перад выбарамі. І ўжо 13 чэрвеня прагаласавалі 26 гараджан. Аднак гэта вымагае ад членаў участковых камісій дадатковых клопатаў па арганізацыі галасавання, адказнасці за захаванне апушчаных у урны бюлетэняў, паколькі далёка не на ўсіх участках ёсць пакоі з сігналізацыяй і нават сейфы для захоўвання апячатаных урнаў. Аб гэтым таксама варта было б падумаць распрацоўшчыкам Закона аб выбарах Прэзідэнта.

*Запісаў Мікалай ЧАЛЕЙ.*

## ПРАГАЛАСАВАЛА КАЛЯ 2 ТЫСЯЧ ЧАЛАВЕК

**Выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь фактычна пачаліся. Першых наведвальнікаў выбарчыя ўчасткі прынялі 13 чэрвеня. У Мінскай вобласці ўжо прагаласавала каля дзвюх тысяч чалавек. Найбольш актыўнымі ў гэтых адносінах можна назваць раёны Мінскі, Пухавіцкі, гарады Барысаў, Вілейка, Жодзіна, Салігорск. Прычыны датэрміновага галасавання розныя: адны надоўга едуць у камандзіроўку, другія збіраюцца ў водпуск, трэція вырашылі правесці дзень 23 чэрвеня на сваім прысядзібным участку, дачы.**

**Між тым, першыя вынікі галасавання даюць падставу зрабіць вывад, што людзі сур'ёзна падышлі да выбару Прэзідэнта рэспублікі. А гэта значыць, звязваюць з ім надзеі на лепшае жыццё.**

*(Наш кар.).*

## Прэм'ер адказвае "Народной газете"

Старшыня Савета Міністраў В.Ф.Кебіч у сувязі з публікацыяй у "Народной газете" шэрагу матэрыялаў, што скажона трактуюць палітыку ўрада, становішча спраў у сферы сацыяльна-эканамічнага развіцця і духоўнага жыцця, а таксама падвяргаюць сумненню яго перадвыбарную праграму, звярнуўся з пісьмом да галоўнага рэдактара гэтай газеты І.П.Сярэдзіча, у якім ён просіць прадаставіць месца на яе старонках для свайго артыкула "Беларусь — праблемы мадэрнізацыі (адказ апанентам)".

"Лічу гэта важным і неабходным, — гаворыцца ў пісьме прэм'ер-міністра,— таму што заўсёды з павагай ставіўся да чытачоў газеты і хацеў бы, каб у іх склалася праўдзівае, аб'ектыўнае ўяўленне аб маіх поглядах на цяперашнюю сітуацыю і шляхах рэфармавання, абнаўлення нашага грамадства".

*Служба інфармацыі ўрада Рэспублікі Беларусь.*




## Подзвігі бацькоў — дарогі сыноў

**Набліжаецца вялікае і светлае свята — 50-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У гонар гэтай слаўнай даты Міністэрства абароны рэспублікі, Міністэрства культуры і друку, рэдакцыя газеты "Во славу Родины" з удзелам рэдакцый газет "Мінская праўда", "Цэнтральнай газеты", а таксама барысаўскай аб'яднанай, лагойскай і смалявіцкай раённых, жодзінскай гарадской газет правялі патрыятычную акцыю "Подзвігі бацькоў — дарогі сыноў".**

Адпраўны пункт гэтай верталётнай экспедыцыі, якая адбылася 16 чэрвеня, — ваенны аэрадром пад Мінскам. Тут, прама на лётным полі, сабраліся людзі мужнай прафесіі, тыя, каму даверана ахова блакітнага неба краіны. З асаблівай цеплынёй і хваляваннем успрынялі верталётчыкі выступленне былога франтавога лётчыка-штурмавіка, потым — знішчальніка, ураджэнца Крупшчыны, якому ў 18-гадовым узросце давялося ўступіць у жорсткую сутычку з ворагам, а ў 22 гады заслужыць самую высокую адзнаку Радзімы— званне Героя Савецкага Саюза, палкоўніка ў адстаўцы Мікалая Якаўлевіча Зайцава. Намеснік міністра культуры і друку І.А.Карэнда, прадстаўнік Міністэрства абароны палкоўнік В.Д.Багачоў расказалі воінам пра мэты акцыі, паэт, рэдактар «Цэнтральнай газеты» Генадзь Пашкоў прачытаў свае вершы.

І вось вінтакрылая машына ўзмывае ў паветра, бярэ курс на Плешчаніцы. Пералёт нядоўгі, і амаль увесь час Мікалай Якаўлевіч не адыходзіць ад кабіны экіпажа, тлумачыць удзельнікам экспедыцыі прызначэнне прыбораў, агрэгатаў.

Потым зноў сустрэча з асабовым саставам вучэбнага воінскага падраздзялення. Сваімі ўспамінамі пра суровыя партызанскія будні падзяліўся былы камандзір атрада славутай партызанскай брыгады «Дзядзькі Колі» Іван Харытонавіч Загараднюк. У зале знаходзіліся таксама ветэраны Вялікай Айчыннай вайны — журналісты, хто палымяным словам натхняў воінаў, народных мсціўцаў на бязлітасную барацьбу з акупантамі: былы рэдактар падпольнай райгазеты «За Савецкую Беларусь» Іван Іванавіч Муравіцкі, яе былы адказны сакратар, актыўны стваральнік кнігі «Памяць» Браніслаў Уладзіміравіч Сасноўскі, былы рэдактар плешчаніцкай райгазеты Пётр Альфонсавіч Яноўскі. Ім І.А.Карэнда выказаў глыбокую павагу за здзейснены подзвіг, уручыў кветкі і памятныя сувеніры.

У Барысаве, дзе «МІ-8" зрабіў чарговую пасадку, удзельнікі экспедыцыі наведалі праслаўлены Дняпроўскі танкавы корпус, які выхаваў 42 Герояў Савецкага Саюза, а адзін з іх, Юрый Міхайлавіч Сагайдачны, які жыве цяпер на Украіне, навечна занесены ў спісы І-й роты, вызначыўся ў бітве на Курскай дузе, вызваляў Украіну, Прыбалтыку, браў Усходнюю Прусію і Германію, за масавы гераізм узнагароджаны ордэнам Суворава II ступені. Да помніка воінам-танкістам леглі кветкі шчырай удзячнасці за неўміручы гераізм.

Гірлянда з пахучых яловых лапак і жывых кветак была ўскладзена і да помніка на высокім беразе Бярэзіны танкаваму экіпажу Паўла Рака. Яго «трыццацьчацвёрка» першая ўварвалася ў Барысаў, суткі ў поўным акружэнні наводзіла жах на фашыстаў. 30 чэрвеня 1944 года ў няроўным баі танкісты загінулі. У памяць вогненнага экіпажа Герояў Савецкага Саюза, слаўных сыноў украінскага і рускага народаў Рака, Пятраева, Данілава ўзнесена на высокі пастамент баявая браніраваная машына. Тут былі ўручаны кветкі і памятныя сувеніры ветэранам журналістыкі, былому рэдактару дывізіённай газеты, падпалкоўніку ў адстаўцы Давіду Ісакавічу Клябанаву і ўдзельніку абароны Ленінграда, былому рэдактару барысаўскай аб'яднанай газеты «Камуністычная праца» Аляксандру Георгіевічу Герасіменку.

Вельмі хвалюючай атрымалася сустрэча ўдзельнікаў экспедыцыі з ветэранамі і жыхарамі Жодзіна. Не паспеў верталёт зрабіць пасадку на невялікім стадыёне горада, як яго літаральна абляпілі дзесяткі цікаўных хлопчыкаў і дзяўчынак. З затоенай увагай слухалі яны расказ М.Я.Зайцава і І.Х.Загараднюка пра баявую маладосць. Лётчыку-герою і адважнаму партызану паднеслі на льняным вышытым ручніку хлеб-соль.

Ля помніка маці Настассі Фамінічне Купрыянавай, пяць сыноў якой склалі галовы ў бітве з ворагам, а малодшы, Пётр, паўтарыў подзвіг Аляксандра Матросава, за што ўдастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза, які сімвалізуе ўсіх беларускіх маці, чые сыны і дочкі загінулі ў баях з фашызмам, адбыўся шматлюдны мітынг.

З пранікнёнымі словамі нашай вечнай удзячнасці і бясконцага абавязку перад загінуўшымі і жывымі патрыётамі Айчыны, якія ў суровы час адстаялі яе гонар і незалежнасць, звярнуліся да прысутных І.А.Карэнда, ветэран Вялікай Айчыннай жодзінец Іван Арсенцьевіч Куксо, сваю песню падарыў воін-афганец Аляксандр Ганцэвіч. Памятныя сувеніры і чырвоныя гваздзікі ад Міністэрства культуры і друку атрымалі ветэраны мінулых вогненных паходаў пісьменнік Іван Іванавіч Сіняўскі, былая супрацоўніца смалявіцкай райгазеты Таццяна Уладзіміраўна Ягорава, нештатны карэспандэнт «Жодзінскіх навін» Сямён Філімонавіч Кастылёў. Да помніка леглі гірлянды і кветкі. У цырымоніі прынялі ўдзел таксама старшыня Жодзінскага гарсавета Лідзія Мікалаеўна Печань, першы намеснік старшыні гарвыканкома Міхаіл Міхайлавіч Амельянчук.

...Верталёт бярэ курс на сталіцу. Перш чым прызямліцца, ён робіць ганаровы круг над велічным Курганам Славы.

Гэтая патрыятычная акцыя засведчыла: нягледзячы на ўсялякія палітычныя метамарфозы і катаклізмы, беларускі народ помніць тых, хто прынёс яму вызваленне, хто надае аптымізм у гэты нялёгкі час.

**Ніхто не забыты — нішто не забыта!**

*Мікалай ШЛОМА, удзельнік верталётнай экспедыцыі.*

## СЕНАКОС ІДЗЕ БЕЗ КОС





Поўным ходам вядзецца нарыхтоўка кармоў з траў першага ўкосу. У калгасе «Бальшавік» Капыльскага раёна плануюць назапасіць сёлета 5,5 тысячы тон сенажу, 1.800 тон высокапажыўнага сена. У полі працуюць чатыры механізаваныя атрады. Нарыхтавана ўжо звыш 2 тысяч тон сенажу і 600 тон сіласу. Убраныя плошчы падкормліваюцца азотнымі ўгнаеннямі.

НА ЗДЫМКАХ: старшыня калгаса Уладзімір **Ткачоў** (злева) гутарыць з механізатарам Васілём **Кузьмічонкам** і галоўным аграномам Арсенам **Палаўчэняй**; трактарыст Міхаіл **Есман** адвозіць траву на Т-150; нарыхтоўка сенажу.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Нарыхтоўка кармоў

## ІХ ЦАНЫ КАРОВА НЕ ПЫТАЕ

У паўднёвых раёнах вобласці, нягледзячы на пахмурнае надвор"е, поўным ходам ідзе касьба траў. Мы сустрэліся з дырэктарам дзяржплемзавода "Чырвоная зорка" Клецкага раёна І.І.Плаўскім, які расказаў:

— Плошча сенажацей, якія трэба ўбраць на сена і сянаж, — 1.200 гектараў. Касьба ідзе ўжо каля дзесятка дзён. Скошана амаль тры чвэрці. Закладзена звыш дзвюх тысяч тон сенажу. Сена сушыцца марудна: пагоды няма. Але рыхтуем і яго. Мяркуем, што 14 цэнтнераў кармавых адзінак травяністага фуражу ў разліку на ўмоўную галаву жывёлы, як патрабуе практыка кармлення статка, назапасім.

**— Іосіф Іосіфавіч, з якім настроем працуюць людзі?**

— Агітацыйная бура, якая літаральна абрушылася на галовы людзей у сувязі з набліжэннем выбараў Прэзідэнта рэспублікі, не можа не хваляваць вяскоўцаў. Куды пойдзем?.. Да чаго прыйдзем?.. Тым не менш касцы-механізатары Міхаіл Жукоўскі, Іван Анцішын, Анатоль Рабкавец, Пётр Апанасевіч, Рыгор Чэчун, Міхаіл Буйвіла працуюць дружна. Разумеюць, што менавіта ад іх залежыць кармленне жывёлы ўзімку. З такім жа настроем працуюць тыя, хто сушыць траву, рыхтуе сянажную масу, закладвае корм.

**— Як забяспечваецца тэхніка палівам?**

— Прыемнага тут па-ранейшаму мала. Набываючы паліва, справу даводзіцца мець, як правіла, з камерцыйнымі структурамі. Цэны на бензін і дызпаліва яны "давялі" ўжо да 5 тысяч рублёў за літр. А ў нас нават у гэтыя дні, калі корманарыхтоўчы атрад працуе фактычна яшчэ не на поўную сілу, штосутачна расходуецца 2 тоны дызпаліва і тона бензіну. А калі ўсталюецца добрае надвор"е і пойдзе нарыхтоўка сена, тады запатрабуецца 4 тоны ў дзень саляркі і звыш дзвюх тон бензіну. Вось і прыкіньце, якіх грошай патрабуе сёння нарыхтоўка кармоў /акрамя зарплаты людзей/ і адкуль пачынаецца высокая цана на малако і мяса...

Так, дорага, надзвычай дорага абыходзіцца гаспадаркам здабыча корму, без якога не можа быць на нашым стале ні малака, ні мяса. І ўсё ж касьба траў ідзе. У Клецкім раёне скошана 42 працэнты сенажацей. Яшчэ больш у Нясвіжскім — звыш 52, больш як палавіна лугоў у пракосах на Капыльшчыне, 32 працэнты — у Салігорскім раёне.

Па вобласці травы скошаны больш як на 20 працэнтах плошчаў. Увогуле ж касьба сёлета /з-за ўмоў надвор"я/ адстае ад мінулагодняй. Летась на ўчарашнюю дату было скошана 54 працэнты сенажацей.

*Іван АБАБУРКА.*

Крымінал-тэлетайп

### Сцеражонага бог сцеражэ

Напэўна, усё было б інакш, калі б рабочы «Беларуськалія» перасцярогся і не здаўся на ўгаворы. Цяжка сказаць, што паслужыла асноўным аргументам, але ён сеў у машыну, дзе знаходзіліся два мужчыны. Аўтамабіль узяў кірунак у лясны масіў. Там у «госця» пачалі патрабаваць 500 долараў. Калі той запярэчыў, прымянілі сілу.

Міліцыя адшукала вымагальнікаў: два жыхары Салігорска (адзін з іх — непрацуючы) вырашылі такім «арыгінальным» спосабам разбагацець.

### Дарослыя дзеці

На Любанскае вадасховішча прыехалі шэсць рыбакоў са Слуцка. Дарослыя паводзілі сябе як дзеці. Знайшлі артылерыйскі снарад у лесе, прынеслі яго і кінулі ў вогнішча. Выкладчык ПТВ і непрацуючы жыхар Слуцка з цялеснымі пашкоджаннямі рознай цяжкасці змешчаны ў бальніцу.

### Рабаўнікі на дарозе

У Мінскі РАУС звярнуўся генеральны дырэктар таварыства з абмежаванай адказнасцю і заявіў, што чацвёра невядомых зайшлі ў кафэ-бар, якое размешчана ля шашы Мінск—Вільнюс, і пад пагрозай фізічнай расправы забралі дзённую выручку — чатыры мільёны рублёў, а таксама гарэлку, шакалад, цыгарэты на агульную суму сем мільёнаў рублёў.

### Брат брата...

10 чэрвеня два браты ў Барысаве вырашылі выпіць. Не каву, а спіртное. Слова за слова — завязалася спрэчка. Адзін з іх схапіўся за нож. Канец гісторыі трагічны: брат забіў брата.

А вось у Салігорску нож аказаўся ў руках жанчыны. У час спрэчкі яна нанесла раненні свайму мужу.

У Старых Дарогах непрацуючы ў сваім доме вырашыў расправіцца з сабутэльнікам. З нажавымі раненнямі вартаўнік Салігорскага аб'яднання аховы дастаўлены ў бальніцу.

### Смерць косіць касою

У Заслаўі непадалёк ад новабудоўлі знойдзены труп мужчыны. Экспертыза ўстанавіла ў яго ўнутраныя пераломы рэбраў. Затрыманы па падазрэнню ў забойстве мясцовы жыхар.

Каля Трасцянца на гарадской звалцы знойдзены труп нованароджанага хлопчыка. Прычына смерці, абставіны высвятляюцца.

**За тыдзень у вобласці ўчынена 146 злачынстваў. З іх тры забойствы, 11 рабаўніцтваў, 45 крадзяжоў дзяржаўнай і 67 — асабістай маёмасці, 10 дарожна-транспартных здарэнняў, 4 чалавекі загінулі, 9 паранены. 28 пажараў. 8 чалавек скончылі жыццё самагубствам.**

*Ірына АНДРЭЕВА.*



## ІЛЬГОТА ВЕТЭРАНАМ

**Як паведаміла кіраўніцтва Беларускай чыгункі, у сувязі з маючым адбыцца святкаваннем 50-годдзя вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Беларуская чыгунка ўстанавіла з 29 чэрвеня да 10 ліпеня бясплатны праезд інвалідам і ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны да месц баявой славы і правядзення ўрачыстасцей.**

